Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10.2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер,
выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 8 (516) 25 лютага 2010 года | Кошт **свабодны**
















# У студзені вытворчасць будматэрыялаў у Беларусі ўзрасла амаль на 10%

Аб'ём вытворчасці будматэрыялаў у Беларусі ў студзені 2010 года ўзрос на 9,5% у адносінах да аналагічнага леташняга перыяду і склаў 319,8 млрд. рублёў.

Паводле інфармацыі Белстата, вытворчасць цэменту ўзрасла на 9,2%, да 243,6 тыс. тон.

За першы месяц будаўнічай галіной выраблена 9,5 млн. умоўных плітак шыферу (рост на 8,4%), 180,8 тыс. куб. м зборных жалезабетонных канструкцый і вырабаў (на 4,7%), 629,8 тыс. кв. метраў керамічнай пліткі для ўнутранай абліцоўкі сцен (на 81,1%), 640,6 тыс. кв. метраў керамічнай пліткі для падлогі (у 2,2 разы).

Разам з тым знізілася на 4,7% вытворчасць сценавых матэрыялаў (234,8 млн. умоўн. цэглы), неарміраваных жалезабетонных вырабаў — на 34,3% (8,9 тыс. куб. м), шклопакетаў — на 19,9% (18,1 тыс. кв. м), нярудных будматэрыялаў (10 млн. 184 тыс. тон).

Па выніках працы ў 2009 годзе 11 прадпрыемстваў будаўнічай галіны (8,1% да агульнай колькасці арганізацый) былі стратнымі. Агульная сума стратаў склала прыкладна 26,3 млрд. рублёў, паведамляе Белстат.

За 2008 год стратнымі былі шэсць прадпрыемстваў (4,4% агульнай колькасці). Сума чыстых стратаў тады склала 1,1 млрд. рублёў.

*Марына Носава, БелаПАН.*





## Да ўвагі арганізацый і ІП
### у г. Глыбокае адкрыты пункт рэалізацыі

РУП «Выдавецтва «Белбланкавыд» па адрасе: г. Глыбокае, вул. Леніна, 22 (1-ы паверх Універмага), дзе **арганізаваная рэалізацыя бланкаў строгай справаздачнасці** (БСС), у тым ліку пуцявых лістоў і медыцынскіх кніжак, кніжнай прадукцыі, канцтавараў, бланачнай прадукцыі, якая выкарыстоўваецца ў бухгалтарскім і падатковым уліку і справаздачнасці.

**Тэлефон: 8 (02156) 2-34-01.**

**Будзем рады супрацоўнічаць з Вамі!**

Ліц. № 50000/0568897, выд. 07.08.2009 г. Мінскім АВК.

# Ê³ðàўí³öòâà Â³öåáñêàé âîáëàñö³ àáìåðêàâàëà ç ïðàäïðûìàëüí³êàì³ ïûòàííå àá ãàíäë³ ï³âàì ó äðîáíàé ðîçí³öû




■ Марына Носава, *БелаПАН*

**Пытанне аб гандлі півам у дробнай рознiцы абмяркоўвалася 18 лютага на сустрэчы прадпрымальнікаў з кіраўніцтвам Віцебскага аблвыканкама. Пра гэта паведаміў БелаПАН старшыня савета РГА «Перспектыва» Анатоль Шумчанка.**

Паводле яго слоў, віцебскія ўлады маюць намер 1 сакавіка ўвесці забарону на гандаль півам у кіёсках і павільёнах. У сувязі з гэтым раніцай 18 лютага каля будынка аблвыканкама ў Віцебску пры ўдзеле РГА «Перспектыва» сабралася прыкладна 70 прадпрымальнікаў. Усе яны былі запрошаны ў залу пасяджэнняў на перамовы. «Нас усіх прыемна здзівіла, што кіраўніцтва вобласці нас не адфутболіла, а выслухала», адзначыў Шумчанка. З боку ўладаў прысутнічалі намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Алег Мацкевіч, прадстаўнікі ўпраўлення прадпрымальніцтва, упраўлення гандлю і паслуг аблвыканкама і Віцебскага гарвыканкама.

Паводле вынікаў перамоў было прынята рашэнне правесці да 1 сакавіка яшчэ адну сустрэчу, на якой будзе канчаткова абмеркавана гэтая праблема і стане вядома, ці будзе знята або пакінута ў сіле забарона. «Гэта не азначае, што мы здадзімся і кінем адстойваць свае інтарэсы», падкрэсліў Шумчанка.

Паводле яго слоў, віцебскія ўлады паведамілі прадпрымальнікам, што прааналізуюць аналагічныя рашэнні іншых абласцей краіны і стаўленне да гэтай ініцыятывы канцэрна «Белдзяржхарчпрам», які выступае за адмену прынятай шэрагам аблвыканкамаў забароны на продаж піва ў дробнай розніцы.

# Õëåáàçàâîä÷ûê³ «ñêðàë³» áðýíä ó ðà¸íê³

**На хлебазаводзе ў Докшыцах пачалі выпускаць хлеб з назвай «Родныя вытокі». Такую ж назву мае і докшыцкая раённая газета.**

Невядома, ці то хлебазавод вырашыў гэтак увекавечыць і праславіць у народзе райвыканкамаўскае прапагандысцкае выданне, ці то хлебазаводчыкам элементарна не хапіла крэатыву. Калі мае месца другое - лагічным крокам з боку «раёншчыкаў» было б даказаць свае права на брэнд у судзе, альбо прапанаваць хлебазаводу набыць за грошы права карыстання вядомай у Докшыцах гандлёвай маркай. Апошняе дазволіла б ашчадзіць грошы, якія ідуць з бюджэту.

# Ó Øóì³ë³íñê³ì ðà¸íå ўíóê çá³ў áàáóëþ äà ñìåðö³

■ **Марына Паўлава**

**Некалькі дзён праляжаў у хаце труп 74-гадовай пенсіянеркі.**

Трагедыя адбылася ў вёсцы Шашы Шумілінскага раёна. Жанчына памерла ад чэрапна-мазгавой траўмы, пераломаў рэбраў і парыву ныркі. Па падазрэнні ў забойстве затрыманы ўнук загінуўшай, 25-гадовы жыхар Полацка. Ён прыехаў наведаць бабулю, аднак падчас узнікшай сваркі збіў яе да смерці. Крымінальная справа ўзбуджана па ч.3 арт. 147 КК. Маладому чалавеку пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 15 гадоў.

Ïàñòàўñê³ ðà¸í

# Ñóâÿçü áåç ïåðàøêîä

■ **Кастусь Александровіч**

**Напрыканцы зімы ў Пастаўскім раёне пабывала намеснік міністра сувязі і інфарматызацыі Беларусі Ларыса Лапковіч і правяла прыём грамадзян па асабістых пытаннях, сустрэлася з мясцовымі сувязістамі.**

У адрозненне ад іншых рэгіёнаў краіны тут ад насельніцтва не было ніякіх скаргаў, бо галіна развіваецца дынамічна, вельмі хуткімі тэмпамі. Толькі летась на Пастаўшчыне займелі тэлефоны ў аддаленых месцах глыбінкі яшчэ 520 вяскоўцаў, усяго было ўстаноўлена яшчэ амаль 1300 апаратаў і практычна знікла чарга на падключэнне да тэлефоннай сувязі. Амаль у 3 разы за год павялічылася колькасць карыстальнікаў высакаскараснога доступу ў Інтэрнет і іх стала болей 1760 абанентаў. Акрамя двух кабельных сетак тэлебачання ў райцэнтры яшчэ амаль 800 сем’яў сталі з дапамогай сувязістаў карыстацца паслугамі інтэрактыўнага лічбавага тэлебачання ZALA у гарпасёлках Варапаева, Лынтупы. Свая лічбавая станцыя АТС запрацавала ў аграгарадку Парыж і павялічылася ёмкасць сельскіх станцый сувязі ў вёсках Навасёлкі, Казлоўшчына, Вайцяхі і Сяргеевічы. У выніку ў раёне значна перакрыты дзейнічаючыя дзяржстандарты па тэлефанізацыі мясцовасці, імя калектыва Пастаўскага РВЭС занесена на абласную Дошку гонару.

Øàðêîўø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ó íàãó ç ïðàãðýñàì

■ **Станіслаў Раманчук**

**У шмат якіх жыццёвых выпадках, якія датычацца падзей мінулага, людзі вымушаны звяртацца ў архівы. І балюча ім бывае, калі нейкія важныя дакументы прападаюць з-за ненадзейнага захоўвання.**

Гэтых калізій з нядаўняга часу не будзе ў супрацоўнікаў Шаркоўшчынскага раённага архіва па асабістаму складу. Яны летась справілі наваселле ў новым будынку, які стаў адным з лепшых у сістэме падобных дзяржустаноў у краіне. Тут створана сучасная матэрыяльна-тэхнічная база для пераводу працы на камп’ютарныя тэхналогіі замест папяровых носьбітаў інфармацыі. У гэтым годзе восенню ўсе мясцовыя архівы будуць уключаны ў адзіную аўтаматызаваную інфармацыйную сістэму пры Міністэрстве юстыцыі Беларусі. Яшчэ далей за сваіх калег з Шаркоўшчыны пайшлі супрацоўнікі дзяржаўнага занальнага архіва з Глыбокага. Яны правялі вялікую працу па стварэнню навукова-даведачнага матэрыяла супраджэння. У выніку была падрыхтавана і выпушчана накладам 150 экземпляраў кні “Кароткі даведнік па фондах“ (аб дакументах 1944-2004 гадоў). Такое выданне было адным з першых у краіне і падрыхтавана раней нават абласнога архіва. Сёлета мясцовыя архівісты завершаць чарговую працу над зборнікам дакументаў аб развіцці гэтага кутка Паазер’я ў пасляваенны час.

Øàðêîўø÷ûíñê³ ðà¸í

# Ñÿêåðà - íå àðãóìåíò ó ñïðý÷öû

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Размовы пра талерантнасць беларусаў хутчэй усяго міф, бо ўсё часцей асобныя суайчыннікі ў канфліктных сітуацыях дзейнічаюць занадта рашуча.**

Вось і пенсіянер з Шаркоўшчынскага раёна вымушаны будзе па рашэнню суда выплаціць 3,5 млн. рублёў штрафу за тое, што стаў на падпітку пагражаць сякерай старшыні Радзюкоўскага сельсавета пры выкананні ім сваіх службовых абавязкаў. Кіраўнік сельвыканкама спрабаваў у той дзень дапамагчы сваёй зямлячцы вырашыць бытавую спрэчку. Яшчэ летась каровы цяпер ужо асуджанага вяскоўца патапталіся па прысядзібным участку жыхаркі вёскі Беляі. Паміж сабой удзельнікі канфлікту ніяк не разабраліся па-добраму, як суседзі. Калі пенсіянер убачыў гасцей на сваім панадворку, ён не толькі словамі перайшоў у наступленне. Разгараваны ад выпітых градусаў, стаў на сваю бяду махаць сякерай. Старшыня сельсавета гэту хату пакінуў, але выклікаў уціхамірыць хулігана супрацоўнікаў міліцыі. Цяпер ужо будзе над чым падумаць, як сябе весці і агрэсіўнаму мужчыне. Акрамя выплаты буйнога штрафа ў 100 базавых велічынь, суд прызначыў яму і прымусовае лячэнне ад алкагалізму па месцы жыхарства.





## Íàäâîð'å ў Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 25.02.10 | | | | пятн.26.02.10 | | | суб. 27.02.10 | | нядз.28.02.10 | | пн. 01.03. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °C | -6 | -5 | 0 | +1 | +1 | +2 | +1 | +1 | +1 | +1 | +1 | +1 | +1 |
| Ціск, мм | 745 | 744 | 744 | 744 | 744 | 744 | 744 | 743 | 743 | 742 | 742 | 741 | 737 |
| Вільготнасць, % | 93 | 94 | 92 | 94 | 95 | 97 | 91 | 95 | 91 | 95 | 94 | - | - |
| Вецер м/сек | С-В 5 | В 4 | Ю-В 3 | Ю-В 2 | Ю 2 | Ю 4 | Ю 5 | Ю 4 | Ю 6 | Ю 5 | Ю 5 | Ю-В 4 | Ю-В 7 |

## Äçåíü çà äí¸ì

**З-за аднабокай раней арыентацыі на ўсходні рынак экспарт Беларусі ў Расію ўпаў у мінулым годзе адразу на 36 %. Штучна створаныя бар'еры і абмежаванні закупак беларускіх тавараў нашай ці зможа зменшыць і створаны Мытны саюз. Пакуль жа сёлета амаль на 5,5 трыльёнаў рублёў ляжыць без збыту на складах айчыннай прадукцыі, замежных тавараў за год беларусы закупілі болей на 5 млрд. долараў, чым прадалі на экспарт. Такія тэндэнцыі ставяць пад сумненне выкананне напружаных прагнозных паказчыкаў і рост зарплаты да 500 долараў.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Канада.*** Шмат клопатаў арганізатарам XXI зімовай Алімпіяды ў Ванкуверы прынесла анамальна цёплае з 1937 года надвор'е і адсутнасць снегу, а ЗША накрылі снегапады.

***Англія.*** Вядучыя эксперты Брытаніі пацвердзілі, што еўра можа страціць статус другой валюты свету і яшчэ болей упасці да долара да адзнакі 1,20, заклікалі не ставіць на EUR.

***Бельгія.*** Экстраны эканамічны саміт краін ЕС у Брусэлі пацвердзіў наступленне 3-й хвалі эканамічнага крызісу ў Еўропе, нарастанне бюджэтнага дэфіцыту і беспрацоўя.

***Польшча.*** Краіна першая з дзяржаў ЕС падпісала з Беларуссю пагадненне аб спрошчаным перасячэнні граніцы жыхарамі прыгранічных раёнаў і малым пагранічным руху.

***Японія.*** Вядучыя японскія аўтаканцэрны "Toyota" і "Honda" адклікалі некалькі мільёнаў сваіх новых аўтамабіляў з выяўленымі рознымі дэфектамі з салонаў сусветнага рынку.

***Расія.*** Канцэрн "Газпрам" атрымаў усе неабходныя дазволы ад 5 краін для пачатку работ па пракладцы газаправода "Паўночны струмень" па дне Балтыйскага мора.

***ЗША.*** У буйнейшым мегаполісе Нью-Йорку ўзровень 20-ці паверхаў перавысілі металічныя канструкцыі першага з хмарачосаў, будуемага на месцы вядомага тэракту.

***Гаіці.*** Былы прэзідэнт ЗША Біл Клінтан стаў займацца па даручэнню ААН каардынацыяй усіх міжнародных праграм па аказанні дапамогі пацярпеламу ад землятрусу востраву.

***Таіланд.*** Як і чакалася, з мясцовай турмы выпусцілі экіпаж самалёта Іл-76, затрыманага ў Бангкоку з нелегальным грузам зброі, сярод 4 лётчыкаў - і беларуса Міхаіла Петухова.

***Польшча.*** Маршал сената Багдан Марусевіч выказаў недаўменне, чаму ў этнічных палякаў у Беларусі адбіраюць маёмасць, у якую ўкладзены немалыя польскія грошы.

***Расія.*** Пры затрыманні ў цэнтры Масквы 4 бандытаў, сярод іх аказаліся 2 міліцыянеры, у Астрахані затрымалі з палічным цэлы ўзвод ДАІ з 18 супрацоўнікаў, якія кралі грошы.

***Украіна.*** У выніку аварыі мікрааўтобуса з грузавым аўтамабілем на трасе Харкаў-Кіеў загінулі адразу 7 святароў Украінскай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхату.

***Англія.*** Раптоўная смерць у сваім доме ў Лондане 40-гадовага мадэльера Аляксандра Маккуіна шакіравала свет, ён так і не пераажыў зыход з жыцця за тыдзень сваёй мамы.

***Латвія.*** За сродкі адной з праграм ЕС адкрыецца трансгранічны аўтамабільны турмаршрут "Уздоўж Заходняй Дзвіны" Даўгаўпілс-Полацк-Віцебск даўжынёй 350 км.

***Германія.*** На некалькі гадзін быў паралізаваны ля Вісбадэна рух на аўтабане, дзе трасу заліў сапраўдны ручэй з разбіўшыхся з праяжаўшай фуры10 тысяч бутэлек гарэлкі.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** Поўнасцю накарміць краіну і забяспечыць экспарт, пацвердзілі ў НАН Беларусі, у стане 300 лепшых буйных гаспадарак, астатніх 1700 калгасаў трэба хутчэй рэфармаваць.

***Гомель.*** На аб'яднанні "Гомельдрэў" асвоілі выпуск зборна-шчытавых канструкцый для стварэння па вобласці сеткі піўных рэстаранаў пасля забароны піць піва на вуліцах.

***Мінск.*** Пасла Польшчы ў Беларусі Г. Літвіна адклікалі ў Варшаву для кансультацый пасля таго, як у Івянцы апісалі маёмасць у будынку аддзялення непрызнанага Саюза палякаў.

***Брэст.*** З ранейшых 8 тысяч да 413 чалавек зменшылася колькасць працуючых на мясцовым заводзе "Цветатрон", летась яшчэ ў 2 разы зменшыліся тут аб'ёмы вытворчасці.

***Мінск.*** Кіраўніцтва МУС Беларусі зацвердзіла новы ўзор нацыянальных пашпартоў, раней выдадзеныя будуць сапраўдныя, а біяметрычныя пашпарты пакуль не будуць уводзіцца.

***Ліда.*** Пасля вяртання з гасцей беспрацоўны сын збіў да смерці 60-гадовую маці, распачалі крымінальную справу і супраць лідчанкі, вінаватай у гібелі прыёмнага 4-гадовага сына.

***Мінск.*** Сумарныя даўгі гаспадарак АПК краіны, як заявіў міністр фінансаў А. Харкавец, дасягнулі 20 трыльёнаў рублёў, эфектыўнай аддачы ад іх працы так і не ўдалося дабіцца.

***Магілёў.*** Апасаючыся вялікай паводкі на Дняпры, у абласным цэнтры і Бабруйску склалі план мерапрыемстваў па абароне гэтых гарадоў ад ледаходу і вялікай воднай стыхіі.

***Мінск.*** За вялікія даўгі летась у Беларусі выселілі з займаемых кватэр 207 сем'яў, з іх 69 без прадастаўлення іншага жылля, да канца ацяпляльнага сезона тарыфы ЖКГ не зменяць.

***Баранавічы.*** Былы начальнік ДАІ атрымаў 2,5 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай прыгавору на 2 гады за злоўжываннем уладай і прысваенне часткі грошай з 30 штрафаў.

***Мінск.*** Як паведаміў міністр архітэктуры і будаўніцтва А. Селязнёў, вакол беларускай сталіцы будзе 9 гарадоў-спадарожнікаў, па 3 з іх ужо распрацоўваецца тэхдакументацыя.

***Клічаў.*** Трэці сёлета выпадак рабавання банкаматаў у РБ зафіксаваны ў канторы СВК "Добраахвотнік", адкуль пры адсутнасці вартаўніка злачынцы забралі 28 млн. рублёў.

***Мінск.*** Услед за інтэрнатам Белдзяржуніверсітэт атрымаў і суперкамп'ютарны цэнтр з 288 працэсарамі коштам 1 млн. USD, які здольны выконваць 2,5 трлн. аперацый у секунду.

***Бабруйск.*** Госцем мастацкага каледжа стаў яго былы навучэнец, сусветна вядомы марскі падарожнік Фёдар Конюхаў, які прывёз падарункі, падзяліўся сваімі новымі планамі.

***Мінск.*** Агульная колькасць удзельнікаў рэспубліканскага конкурсу маладых талентаў "Зорка ўзышла над Беларуссю" перавысіла 4 тысячы чалавек ва ўзросце ад 16 да 32 гадоў.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** Кіраўнік вобласці А. Косінец запатрабаваў ад падначаленых паўсюдна рэальна дапамагчы бяздомным, пры патрэбе перасяліць іх з гарадоў у пустуючыя хаты на вёсцы.

***Орша.*** Супрацоўнікі-вадалазы МНС позна вечарам з дапамогай лодкі выратавалі 23-гадовага аршанца, які ледзь не замерз на тонкім лёдзе пад мастом праз раку Днепр.

***Віцебск.*** У раней адкрытых па вобласці аграгарадках па-ранейшаму не здадзены ў эксплуатацыю больш 70 розных аб'ектаў, для іх трэба знайсці яшчэ 371 млрд. рублёў.

***Наваполацк.*** З-за кароткага замыкання адбыўся моцны пажар у інтэрнаце прафліцэя будаўнікоў, калі былі занятк і і ніхто з навучэнцаў на пацярпеў, эвакуіравалі 8 з іх.

***Віцебск.*** Толькі летась на Віцебшчыне, як адзначалася на абласной нарадзе, прымусовай смерцю загінулі 2188 чалавек, 514 з іх былі самагубцы, 117 - забіты, 398 перапілі.

***Верхнядзвінск.*** Новы эксперыментальны корм зернесенаж з'явіўся зімой для кароў на ферме СВК "Сакалоўшчына", ён выраблены па заходніх тэхналогіях.

***Віцебск.*** За недаплату падаткаў у суме 341 млн. рублёў суд на 5 гадоў абмежавання волі з канфіскацыяй маёмасці асудзіў прадпрымальніцу, летась распачалі 62 справы у вобласці.

***Бешанковічы.*** Прафліцэй у аграгарадку Ула завяршае будаўніцтва новай кацельні, дзякуючы гранту ПРААН тут устанавілі энергазберагаючыя свяцільнікі на 50 тыс. USD.

***Чашнікі.*** Райпракуратура распачала крымінальную справу ў дачыненні двух жыхарак Новалукомля ва ўзросце 28 і 32 гадоў, якія забілі да смерці на падпітку сваёго знаёмага.

***Орша.*** Першыя роды ў сям'і Наталлі і Сяргея Машарскіх прынеслі адразу тройню: дзвюх дзяўчынак і хлопчыка, дзецям дапамаглі з'явіцца на свет урачы Віцебскага раддома №1.

***Віцебск.*** У абласным Мастацкім музеі прайшла вечарына з нагоды 200-годдзя знакамітага земляка, мастака Івана Хруцкага, юбілей якога ўнесены ў спіс памятных дат ЮНЕСКА.

***Дуброўна.*** Са шматлікімі апёкамі цела трапіў у бальніцу 27-гадовы вадзіцель, які няўдала спрабаваў разагрэць паяльнай лямпай бак службовай іншамаркі, але рухавік успыхнуў.

***Браслаў.*** Да 945-годдзя райцэнтра, якое будзе адзначацца ў апошнія выхадныя мая, у сталічным выдавецтве "Беларусь" выйдзе кніга пад рабочай назвай "Браслаўшчына".

***Новалукомль.*** На незамярзаючым возеры Лукомльскае, паблізу ГРЭС, знайшлі прытулак зімой 244 лебедзі, каля тысячы качак і амаль 300 пражорлівых і агрэсіўных бакланаў.

***Віцебск.*** Па рашэнню Міністэрства культуры Беларусі ў горадзе сёлета ўстановяць мемарыяльны знак у гонар 600-годдзя перамогі ў бітве з крыжакамі пад Грунвальдам

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**710,3** *тыс. тон* столькі нафты змаглі атрымаць, па дадзеных ВА "Беларуснафта", у студзені гэтага года два беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы з Наваполацка і Мазыра. Да сярэдзіны лютага гэтыя айчынныя НПЗ працавалі пры мінімальнай загрузцы абсталявання, бо напрыканцы снежня туды было пастаўлена "чорнага золата" за месяц амаль 2 мільёны тон. Хоць беларусам удалося дамовіцца з рускімі аб умовах паставак нафты, аднак у бяспошлінным рэжыме суседзі адмовіліся пастаўляць яе, пакуль парламенты абедзьвюх краін не ратыфікуюць падпісаныя ў Маскве толькі 27 студзеня важныя дакументы.

Пакуль гэта пытанне вырашалася, у пачатку года цяжка прыйшлося беларускаму боку, і толькі ў студзені абодва НПЗ Беларусі спрацавалі са стратамі прыкладна ў 100 млн. USD. Вытворчыя магутнасці гэтых нафтагігантаў былі загружаны ў межах 60 %. Адначасова ўраду краіны прыйшлося пайсці на адмену экспартных пошлін на нафтапрадукты з мэтай стварэння аптымальных умоў для перапрацоўшчыкаў стратэгічнай сыравіны. Дагэтуль менавіта гэта галіна была адным з галоўных донараў беларускага бюджэта. І тут раптам у завяршальны год пяцігодкі такі аблом, патрабуецца думаць аб тым, як выправіць нечакана пагоршыўшуюся сітуацыю.

Невыпадкова і кіраўнік Беларусі, вярнуўшыся з кароткачасовага адпачынку са Швейцарыі, адразу сустрэўся з прэм'ерам і запатрабаваў максімальна ўлічваць інтарэсы нашай краіны ў пытаннях транзіту энергарэсурсаў. Пачатак года прадэманстраваў, што айчынны дзяржбюджэт ужо недаатрымаў значных даходаў і заробкі 500 долараў у канцы года відавочна стануць недасягальнымі пры нерэальна ўзятых тэмпах росту і развіцця эканомікі. У новых умовах з пастаўкамі нафты Беларусі практычна немагчыма выйсці на запланаваныя ў вярхах звышвысокія параметры.

А тут яшчэ падліў масла ў агонь расійскі пасол у Мінску Аляксандр Сурыкаў, які заявіў, што расійскія кампаніі могуць зусім спыніць бяспошлінныя пастаўкі нафты ў Беларусь, калі не будзе беларусамі ратыфікаваны пратакол да пагаднення аб умовах паставак нафты.

У выніку ў адзін дзень 12 лютага гэты дакумент быў падпісаны Дзяржаўнай Думай РФ і адпаведным прэзідэнцкім указам. Пры гэтым у Маскве высокапастаўлены кіраўнік Мінэнерга РФ заявіў дэпутатам, што Расія спыняе субсідзіраванне эканомік краін ЕўрАзЭС і федэральны бюджэт ад новых узаемаадносін толькі з Беларуссю атрымае на 78 млрд.RUB болей, чым летась.

Такім чынам, разлікі беларусаў адцягнуць уступленне ў сілу гэтага міжнароднага дагавора, каб з 1 ліпеня 2010 года перагледзець яго ў рамках новага этапа Мытнага саюза, не спраўдзіліся. Расійскі пасол пацвердзіў, што ніякіх саступак з боку яго краіны больш не будзе. Пакуль беларусы лічаць такі падыход аднабокім, скарачэнне паставак нафты ўжо адбылося, для расійскіх кампаній стала нявыгадным рабіць нафтавы бізнес у Беларусі. Праўда, расіяне пакідаюць магчымасць кампрамісу, але пры адной умове льготнага доступу да святая святых прыватызацыі іх кампаніямі энергетычнай інфраструктуры Беларусі.

Ім ужо надакучылі пустыя размовы і абяцанкі, не хвалюючы страты Беларусі і прамым тэкстам гаворыцца, што ад слоў трэба пераходзіць да спраў. Пакуль жа добра, што хоць у лютым наша краіна зможа закупіць да 1,4 млн. тон нафты без мытных пошлін і частковa кампенсаваць страты студзеня. У беларускім урадзе вырашылі, што атрымоўваць бяспошлінную нафту па квотах будуць толькі пароўну "Нафтан" і Мазырскі НПЗ, а таксама спецэкспарцёр айчынных нафтапрадуктаў ЗАТ "Беларуская нафтавая кампанія" ( у месяц каля 100 тыс. тон).

Спецыялісты лічаць, што з улікам новых умоў аб'ёмы перапрацоўкі нафты сёлета зменшацца дзесьці на 6 млн. тон і ўпадуць да 16 мільёнаў. Для канкрэтных спажыўцоў, аўтааматараў хутчэй усяго ніякіх істотных змяненняў цэн на паліва не будзе, яны буць паволі расці з улікам інфляцыі. Дарэчы, з улікам узроўню даходаў беларусаў цэны на бензін і салярку ў нас звышвысокія, на ўзроўні сусветных, таму паліва на АЗС ёсць усюды.

■ С.В. Ільюшчэня,
*памочнік начальніка аддзела па ідэалагічнай рабоце і кадраваму забеспячэнню.*

# СЛУЖЫМ ЛЮДЗЯМ

## Аб Глыбоцкім аддзеле аховы...

Сёння Глыбоцкі аддзел аховы – гэта мабільная, тэхнічна абсталяваная і добра ўзброеная служба, якая здольная паспяхова вырашаць задачы па забеспячэнні захаванасці ўсіх сфер уласнасці, уносіць важкі ўклад у барацьбу са злачыннасцю, забеспячэнне аховы канстытуцыйных праў і свабод грамадзян. Нашым аддзелам ахоўваецца 201 аб'ект і 238 кватэр, дамоў і гаражоў грамадзян.

У падраздзяленні маецца аўтамабільная тэхніка, неабходныя тэхнічныя сродкі ахоўнай сігналізацыі, узбраенне, сучасныя сродкі сувязі.

Аддзел займаецца аховай усіх відаў аб'ектаў, якія належаць суб'ектам гаспадарання розных форм уласнасці, месцаў захоўвання асабістай маёмасці і кватэр грамадзян, ахова фізічных асобаў, мантаж і абслугоўванне сродкаў ахоўнай, пажарнай і трывожнай сігналізацыі, экспертыза і кансультацыі па ахоўных паслугах, ліцэнзаванне ахоўнай дзейнасці.

**Сацыяльныягарантыі супрацоўніка міліцыі…**

**1.** Стабільная заработная плата, гнуткая сістэма прэміравання і заахвочванні асабістага саставу;

**2.** Абавязковае дзяржаўнае страхаванне супрацоўніка за кошт рэспубліканскага бюджэту ад разнастайных рызык;

**3.** Гарантаванае прадстаўленне дзецям супрацоўнікаў месцаў у дашкольных установах адукацыі на працягу трох месяцаў са дня звароту;

**4.** Прадстаўленне супрацоўнікам, якія маюць выслугу не меней 5 гадоў, права на выкарыстанне льготнага крэдыту для будаўніцтва (рэканструкцыі) або набыцця жылля, тэрмінам ад 20 да 40 гадоў, з платай за карыстанне гэтым крэдытам у памеры 5% гадавых;

**5.** Магчымасць выдзялення супрацоўнікам «службовага жылля»;

**6.** Бясплатнае медыцынскае абслугоўванне ў арганізацыях аховы здароўя органаў унутраных спраў, як саміх супрацоўнікаў, так і членаў іх сем'яў;

**7.** Супрацоўнікам штогод прадстаўляецца асноўны водпуск працягласцю ад 30 да 45 сутак (у залежнасці ад выслугі гадоў), а таксама прадугледжана выкарыстанне дадатковых (сацыяльных) адпускоў: за асобы характар службы, па хваробе, у сувязі з навучаннем ва ўстановах адукацыі, па прычыне асабістага і сямейнага характару. Праезд да месца правядзення асноўнага штогадовага водпуску і зваротна аплачваецца.


Мішута Сяргей Пятровіч, міліцыянер-кінолаг групы затрымання.

**8.** Супрацоўнікі маюць права на пенсійнае забеспячэнне па дасягненні 45-гадовага ўзросту з улікам выслугі на службе 20 і больш гадоў, а таксама з улікам стажу працы 25 і больш каляндарных гадоў, з якіх не меней 12,5 гадоў складае служба ў органах унутраных спраў.

**9.** Дзеючыя супрацоўнікі, пенсіянеры МУС і члены іх сем'яў могуць штогод карыстацца правам на льготы пры атрыманні пуцёвак для санаторна-курортнага лячэння і аздараўлення ў памерах, усталяваных дзеючым заканадаўствам. Непаўналетнія дзеці супрацоўнікаў АУС маюць права на бясплатнае лячэнне і аздараўленне.

**Праходжанне службы ў органах унутраных спраў…**

**1.** Пры паступленні на службу ў органы ўнутраных спраў з супрацоўнікам заключаецца кантракт тэрмінам на 5 гадоў;

**2.** Для нясення службы супрацоўніку выдаецца форменнае абмундзіраванне, заработная плата вылічаецца ў залежнасці ад займаемай пасады, спецыяльнага звання і выслугі гадоў;

**3.** Маюцца неабходныя ўмовы для павышэння свайго прафесійнага ўзроўню, фізічнай падрыхтаванасці. Штогод праводзяцца чэмпіянаты, спаборніцтвы і перападрыхтоўка супрацоўнікаў;

**4.** Супрацоўнікам прадстаўляецца права на павышэнне свайго адукацыйнага ўзроўню ва ўстановах адукацыі сістэмы МУС, а пры неабходнасці ва ўстановах адукацыі іншых Міністэрстваў і ведамстваў;

**5.** Створаныя ўмовы для самарэалізацыі супрацоўнікаў у абласцях дзейнасці не звязаных са службай, праводзяцца калектыўныя экскурсіі, культурна - масавыя спартовыя мерапрыемствы.

**6.** Перспектыўныя супрацоўнікі, якія праявілі сябе з дадатнага боку, прадстаўляюцца да ўзнагароджання дзяржаўнымі ўзнагародамі, знакамі адрознення сістэмы МУС РБ. Дзеючым заканадаўствам апроч прысваення спецыяльных званняў кіруючага саставу па заканчэнні ўсталяванай выслугі, прадугледжана прысваенне чарговых спецыяльных званняў датэрмінова і на адну прыступку вышэй усталяванага па занятай пасадзе.

**Патрабаванні да кандыдатаў…**

Мужчыны, якія маюць высокія і маральнадзелавыя якасці ва ўзросце да 25 гадоў, што з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

**Неабходныя ўмовы…**

- наяўнасць сярэдняй, сярэдняй тэхнічнай або сярэдняй спецыяльнай адукацыі;
- адсутнасць судзімасці;
- прыдатнасць да праходжання службы па стане здароўя;
- добрая фізічная падрыхтоўка.

**Прыярытэтам карыстаюцца…**

Кандыдаты, якія прайшлі тэрміновую ваенную службу ва Узброеных сілах Рэспублікі Беларусь.

Калі Вас зацікавілі нашы прапановы, звяртайцеся ў Глыбоцкі аддзел Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь па адрасе: г. Глыбокае, вул. Мінская, 1, **тэл.: 2-14-73; 2-12-63.**

**МНС паведамляе:**

# Дзіцячая творчасць на шляху прадухілення пажараў!!!

З 14 студзеня па 12 лютага ў Глыбоцкім раёне праводзіўся 12-ы раённы агляд-конкурс дзіцячай творчасці «Ратавальнікі вачамі дзяцей». Асноўная мэта конкурсу - прыцягненне навучэнцаў устаноў адукацыі да правядзення выхаваўчай працы па папярэджанні пажараў ад дзіцячага свавольства з агнём, навучанні школьнікаў і дашкольнікаў асновам бяспекі жыццядзейнасці, дзеянням у выпадку ўзнікнення пажараў і надзвычайных сітуацый.

Арганізацыя і правядзенне конкурсу ў раёне былі ўскладзены на Глыбоцкі раённы аддзел па надзвычайных сітуацыях і аддзел адукацыі Глыбоцкага райвыканкама.

Агляд-конкурс праводзіўся па наступных намінацыях: «Малюнак», «Плакат», «Выраб», «Мадэль пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі», «Мяккая цацка», «Фатаграфія».

Да ўдзелу ў аглядзе-конкурсе дапушчаліся толькі індывідуальныя працы.

Узрост удзельнікаў па стану на 15.03.2010 павінен быў быць да 17 гадоў (16 гадоў уключна). У конкурсе прымалі ўдзел навучэнцы школ раёна, пазашкольных аб'яднанняў.

Вынікі раённага агляду-конкурсу падводзіла камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Глыбоцкага РАНС і аддзела адукацыі Глыбоцкага райвыканкама. Прызавыя месцы размеркаваліся наступным чынам:

**Лепшы плакат:**

першае месца – Заблоцкая Вікторыя, Шуневічскі ГУПК дзіцячы сад-СШ; другое месца – Заблоцкая Дар'я, Зябкаўскі ГУПК ДС-БШ; трэцяе месца - Гаўрыльчык Кацярына, Ломашаўскі ГУПК ДС-СШ.

**Лепшы малюнак:**

першае месца - Сівіцкая Вікторыя, Шуневічскі ГУПК дзіцячы сад-СШ; другое месца – Лаўцэвіч Анастасія, раённы цэнтр пазашкольнай працы, студыя «Экслібрыс»; трэцяе месца – Мацеша Дар'я, раённы цэнтр пазашкольнай працы, студыя «Экслібрыс».

**Лепшы выраб:**

першае месца – Кандрацева Ганна, СШ №3 г. Глыбокае; другое месца - Пятрова Анастасія, СШ№2 г. Глыбокае; трэцяе месца – Капшуль Анжаліка, Глыбоцкая раённая гімназія.

**Лепшая мадэль пажарнай аварыйна-выратавальнай тэхнікі:**

першае-месца - Толкач Уладзімір, Празароцкая ДАСШ;

другое месца - Лось Уладзімір, Залеская СШ;

трэцяе месца - Лысая Наталля, Азярэцкі ГУПК ДС-СШ.

**Лепшая мяккая цацка:**

Першае месца – Калбасіч Ганна, СШ №3 г. Глыбокае; другое месца Цяліца Крысціна, Шуневічская СШ-сад; трэцяе месца - Сяргеева Веранiка, СШ№1 г. Глыбокае.

**Лепшая фатаграфія:**

першае месца - Волкава Алена, Зябкаўскі ГУПК ДС-БШ;

другое месца - Мяховіч Павел, Дзяржаўная агульнаадукацыйная СШ №3 г. Глыбокае; трэцяе месца - Маркавец Дзмітрый, Дзяржаўная агульнаадукацыйная СШ №3 г. Глыбокае і Пазняк Каця, Дзяржаўная агульнаадукацыйная СШ №3 г. Глыбокае.

# Расхініся душа!


**Так адпачываюць кожную нядзелю пасля 15 гадзін ва ўтульнай актавай зале камбікормавага завода маладыя душой глыбачане.** *Фота Я. Самсонава.*

■ Генадзь Кустусін.

Часта прыходзіцца чуць скаргі, што ў Глыбокім няма дзе, акрамя дарагіх кавярняў, моладзі і людзям ва ўзросце весела і цікава бавіць вольны час. Хлусня, скажу я вам, шаноўныя. Лянота-матуля, дый асабістае нежаданне – такі дыягназ пакрыўджаных. Іншага я не бачу. Той, хто сапраўды жадае заўжды весці цікавы і здаровы вобраз жыцця, танна, весела і задорна адпачываць, ведае сцяжынкі ў ГДК, ГЦК, Цэнтры фізкультурнааздараўляючай і пазашкольнай працы, на іншыя цікавыя і забаўляльныя мерапрыемствы. Доказам таму, гэты здымак. Так адпачываюць кожную нядзелю пасля 15 гадзін ва ўтульнай актавай зале камбікормавага завода маладыя душой глыбачане.

**МНС інфармуе**
(па стану на 22.02.2010)
Віцебская вобласць:
пажараў – 296;
загінула – 77 (з іх дзяцей няма);
урон – 595 800 000 руб;
Глыбоцкі раён:
пажараў – 16;
загінула – (з іх дзяцей няма);
урон – 20 600 000 руб.

# Загадкавы помнік у Дзеркаўшчыне


Жахлівы стан старых могілак у Дзеркаўшчыне.
Фота Ул. Скрабатуна

■ Уладзімір Скрабатун

Тое, што ў Дзеркаўшчыне на старым цвінтары ёсць нейкі загадкавы надмагільны помнік, чуў даўно, і неаднойчы. Мне, нават, яго апісалі: высокі, у форме таўстога спілаванага дрэва… Аднак, “па прастаце сваёй душы”, аўтар палічыў старым цвінтарам той, які размешчаны ў цэнтры Дзеркаўшчыны, недалёка ад касцёла, які, фактычна, фамільнае пахаванне паноў Бушаў. Між тым, нічога загадкавага там не знайшоў. Наогул, гадоў дзесяць таму, на гэты шляхецкі цвінтар было страшна зайсці. Усе помнікі ляжалі долу. Відаць, некалі нехта тут “добра” памахаў кувалдай. Кажуць, “камсамольцы”: ці то мясцовыя, ці то наезджыя. Праўда, я б не атаясамляў вандалаў з “камсамольцамі”. Камсамольцамі шмат хто з нас быў і помнікаў не бурылі, а нехта і патаемна наведваў храм, і не важна які: праваслаўны ці каталіцкі.

У лістападзе месяцы мінулага года мне ізноў нагадалі пра гэты помнік. Аўтар і Канстанцін Бахір, аматар вандровак і марафонец (!), паехалі ў Дзеркаўшчыну шукаць гэты загадкавы помнік. Першыя сустрэчныя дзеркаўцы растлумачылі, як туды даехаць. Так, сапраўды, ёсць у Дзеркаўшчыне яшчэ адзін стары вясковы цвінтар. Правільней сказаць – вясковы цвінтар, які складаецца з двух частак: старажытнай і новай, які падзелены дарогай на дзве часткі. У старую частку могілак мы і накіраваліся.

Жах! Несусветны жах! Гэта ж трэба так запусціць могілкі! Чорт ногі зломіць! – як кажуць у народзе. Адзін суцэльны буралом. І гэта каталіцкая вёска! Нават дзіўна, што слава не такога ўжо і далёкага Мосара, сюды не дайшла.

Праўда, дзеля справядлівасці, трэба сказаць, што гэта не першыя каталіцкія могілкі ў такім жахлівым стане, якія трапляюць аўтару на вочы. Тое ж самае запусценне і ў Празароках! Пабітыя, паламаныя, паваленыя вандаламі помнікі на старадаўніх шляхецкіх могілках, што ляжаць збоч Альгердава шляху. Помнікі высокага мастацкага ўзроўню! Няма чагосьці падобнага ў Глыбокім і блізка! Празарокі, наогул, стаяць на бойкай турыстычнай дарозе. Але ці трэба дыскрэдытаваць нашу Глыбоччыну і паказваць турыстам зваротны бок медаля? Не менш жахлівы стан могілак у Язне. “Разбамбілі” і тут фамільнае пахаванне Корсакаў. А тут жа стаяў калі не цуд Свету, дык цуд Беларусі, дакладна. Гэта чыгунная капліца гатычнага стылю, у якой знаходзілася фігура Маці Божай. Фігура паварочвалася тварам насустрач ідучаму…

На старадаўнім дзеркаўшчынскім цвінтары, нягледзячы на бураломы і завалы, знайшлі колькі цікавых, досыць высокага мастацкага ўзроўню, помнікаў. Не памылюся, напэўна, калі скажу, што добры дзесятак цікавых помнікаў мы не знайшлі, бо знішчаныя падаючымі старымі дрэвамі. Навокал буралом і заараснікі хмызнякоў… Паспрабуй знайдзі, а найперш прайдзі і дайдзі. Знойдуць археолагі … ужо праз тысячу гадоў!

Мы адшукалі адзін цікавы помнік, які цалкам падыходзіў пад апісанне: помнік – у выглядзе спілаванага дрэва. Ён выраблены каменячосам з граніту. “Ствол” помніка паўтарае фактуру кары дрэва, на “ствале” – “спілаваныя” сукі. Магіла з помнікам абнесеная кованай агароджай. Здаецца, знайшлі тое, што і шукалі…


Па іроніі лёсу помнік Юстыну Станкевічу «маляўніча» упісваецца ва ўвесь цвінтарны буралом, і не заўважны, бо сам выгляд помніка шматкроць паўтарае падобныя відарысы, якіх навокал мноства.

Канец лістапада. Дзень – кароткі. Мой супольнік па вандроўцы – марафонец Канстанцін Бахір – паспешваў. Хацелася яшчэ наведаць Лучай на Пастаўшчыне.

Воддаль, крокаў за пятнаццаць, на ўскрайку цвінтара, стаяў сілуэт “дрэва”, у якога, нібыта, ураганам, абламала вершаліну. Ствол абламанага “дрэва” быў паросшы мохам, нібыта не бутафорская, а сапраўдная кара на “ствале”. Не было нават і жадання падыходзіць. Настолькі ўсё выглядала рэальна! Зламанае ўраганам дрэва, якіх на старым цвінтары шмат! Косця ўжо накіраваўся да аўто. – Ладна, пачакае мяне. Дайду да гэтага “дрэва”!

Так! Гэта той помнік, пра які мне распавядалі ў Глыбокім. Штосьці падобнае аўтар бачыў у Вільні на цвінтары Роса. Есць падобны помнік з граніту і ў Прошкаве, дзе пахаваны Геранім Дабашынскі. Аднак, там усюды – граніт. Тут – бетон. Прычым высокаякасны. Наогул, цэмент, як кажуць адмыслоўцы, вынайшлі дзесьці ў 1890-ыя гг. Праз два дзесяцігоддзі гэтая найноўшая тэхналогія скарыстаная пры вырабе гэтага помніка.




Чытаем подпіс на мемарыяльнай шыльдзе: “С.П. Юстын Станкевіч. пам. 7 ліп. 1912 г. у веку 75 гадоў. Супакой тваёй душы. Хвала тваёй памяці. Ад смуткуючай дачкі”.

Хто такі Юстын Станкевіч, якому дачка паставіла гэты, скажам так, велічны помнік? Пан альбо падпанак? Прафесар? Дойлід? Я не ведаю! Аднак, каб я паставіў сабе на мэце адказаць на гэтае пытанне, адказаў бы. Проста, не стае часу, да ўсяго не даходзяць рукі. Дзіўна, але ў Дзеркаўшчыне няма сваіх краязнаўцаў. Не чутно. Шкада.

Старадаўнія помнікі заўсёды ўтрымліваюць у сабе пэўную сімволіку. У Прошкаве, напрыклад, у пана Дабашынскага было дванаццаць сыноў і дванаццаць каранёў адыходзяць ад дрэва-помніка ў зямлю. Можна пашукаць адпаведную сімволіку і ў згаданым помніку Юстыну Станкевічу: дубовы ствол дрэва-помніка, дубовае лісце на шыльдзе, палічыць “спілаваныя” сукі на дрэве-помніку, палічыць карані… Усё гэта пра нешта кажа.

Заканчваючы гэты матэрыял, згадалася зусім ўжо блізкая гісторыя. Пасля апублікавання матэрыяла Людмілы Ардынскай “Радзюкі. Вяртанне да вытокаў” (“ВГ” №5/2010) аўтару гэтых радкоў патэлефанаваў прафесар В. Бука з Гродна, які атрымлівае нашую газету.

*– Я нарадзіўся за чатыры кіламетры ад Радзюкоў і не ведаў, што ў іх такая багатая гісторыя,– кажа не без хвалявання спадар В. Бука. Я патэлефанаваў у Гданьск Эдварду Бароўскаму, апошняму ўладальніку маёнтка ў Радзюках. Аказваецца, не гледзячы на такі паважаны ўзрост (1925 г.нр.) ён яшчэ працуе ў Гданьскай Палітэхніцы. Ён – прафесар біяхіі! І я, таксама, – прафесар біяхіміі!...*

Я ўжо не кажу пра тое, што ўсе Радзюкі, што пад Шаркоўшчынай, у захапленні ад матэрыяла Людмілы Ардынскай. Яны адкрылі для сябе нечаканую гісторыю сваёй вёскі, аб якой, нават, і не падазравалі.

І ўсё ж, хто такі Юстын Станкевіч?

# ПРАВЫ АТРЫМОЎВАЕШ - АДКАЗНАСЦЬ УЗРАСТАЕ

**Вось і наступіў доўгачаканы шчаслівы дзень, калі ты атрымаў кіроўчае пасведчанне. Ззаду іспыт, і з'яўляецца ўпэўненасць, што ты ўсё ведаеш і ўмееш. Але гэта далёка не так, ты атрымоўваеш яшчэ і вялізную адказнасць як за сваё, так і за жыццё навакольных цябе людзей.**

■ **І.Р. Анашкевіч,**
*начальнік ДАІ.*

26 лютага Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пройдзе менавіта пад такім дэвізам - «Атрымаў вадзіцельскае пасведчанне – ты ў адказе за жыццё!», галоўнай задачай якога стане прафілактыка ДТЗ з удзелам маладых вадзіцеляў.

Хацелася б звярнуцца да дадзенай катэгорыі грамадзян: нават дасведчаны вадзіцель ніколі да канца не можа быць у чымсьці ўпэўнены, а чалавек, які толькі нядаўна сеў за руль, і пагатоў. Дарога – гэта тое месца, дзе малейшая памылка або няўважлівасць могуць каштаваць чалавеку жыцця, таму, сеўшы за руль, неабходна пакінуць усе клопаты і сканцэтравацца на яздзе. Падчас руху варта быць уважлівымі і ўзаемаветлівымі, пры выбары хуткасці руху і манеўраванні ўлічваць пагодныя ўмовы і стан дарожнага пакрыцця.

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага раёна нагадвае, што прытрымліванне Правіл дарожнага руху захавае вашы жыцці і жыцці акружаючых вас людзей. Зрабіце ўсё неабходнае, каб у вашы сем'і не прыйшла бяда! Беражыце сваё здароўе і здароўе сваіх блізкіх, асабістым прыкладам паказвайце ўсім удзельнікам дарожнага руху, як правільна і бяспечна паводзіць сябе на дарозе. Будзьце асабліва ўважлівыя на дарогах і памятайце: дарога памылак не даруе!

**Кіраванне транспартам зімой патрабуе ад вадзіцеляў асаблівай увагі, строгага выканання правілаў і добрых навыкаў кіравання . Некаторыя вадзіцелі задумваюцца аб гэтым занадта позна. Грэблівыя адносіны да пытанняў бяспекі і няўменне абдумваць наступствы сваіх учынкаў пры пэўных абставінах прыводзяць да бяды, якая не прымусіць сябе доўга чакаць.**

# Выратуем спадчыну разам


Навагрудскі замак у мінулым.


Навагрудскі замак сёння.

**По ініцыятыве Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Грамадскай назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта і Навагрудскага райвыканкама распачынаецца агульнанацыянальная кампанія па рэстаўрацыі (кансервацыі) аднаго з найважнейшых помнікаў Беларусі, калыскі Вялікага Княства Літоўскага – Навагрудскага замка.**

У межах акцыі прадугледжаны збор сродкаў на рэстаўрацыйныя працы шляхам пералічэння іх з рэспубліканскага, абласнога, раённага бюджэтаў, правядзення шэрагу тыражоў латарэі "Скарбніца", а для прыватных ці карпаратыўных ахвяраванняў адкрыты пазабюджэтны мэтавы рахунак аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама.

Дык падтрымаем жа супольную акцыю "Рэстаўрацыя Навагрудскага замка". Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры заклікае прыняць удзел у рэспубліканскай латарэі "Скарбніца" і пералічваць грошы на святую справу захавання і рэстаўрацыі нашай спадчыны.

Будзьма разам! Будзьма беларусамі!!!

Розыгрыш прызавога фонда латарэі "Скарбніца": 22 красавіка 2010 г.

Для збору ахвяраванняў:

Разліковы рахунак аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама № 3632000001310 у АСБ "Беларусбанк" код 698 г. Навагрудак, УНП 500031377 з адзнакай "На рэстаўрацыю Навагрудскага замка".

*Матэрыял дасланы Антонам Астаповічам, старшынёй ГА Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.*



## Абвестка

23 сакавіка гг, а 18-ай гадзіне, у Гарадскім Цэнтры Культуры (Цэнтральны пляц) адбудзецца сустрэча жыхароў горада Глыбокае з **Аляксеем Віктаравічам Протасам**, начальнікам Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

Запрашаюцца аматары прыроды, рыбаловы-аматары, паляўнічыя... Аляксей Віктаравіч адкажа на шматлікія пытанні.

*Ул. інф.*

# Памёр рэжысёр «Белага сонца пустыні» Уладзімір Матыль



Увечары ў нядзелю 21 лютага на 83-ым годзе жыцця памёр кінарэжысёр Уладзімір Матыль.

Ён – аўтар такіх вядомых фільмаў, як «Белае сонца пустыні», «Жэня, Жэнечка і Кацюша», «Зорка прывабнага шчасця».

**Кінарэжысёр нарадзіўся 26 чэрвеня 1927 года ў Лепелі.** Праз тры гады бацька Матыля быў арыштаваны і сасланы ў лагер у Салаўкі. Уладзімір з маці апынуліся на Паўночным Урале.

У 1948 годзе Уладзмір Матыльзакончыўакторскае аддзяленне Свярдлоўскага тэатральнага інстытута. Першы нашумелы фільм – камедыя «Жэня, Жэнечка і Кацюша» – быў адмоўна ўспрыняты ідэолагамі. Матыль атрымаў забарону працаваць па прафесіі.

Другі вядомы яго фільм – эпахальнае «Белае сонца пустыні». Па выніках масавага апытання тэлегледачоў Расіі ён быў прызнаны самым любімым фільмам расіян.

Нарэшце, «Зорка прывабнага шчасця» расказваў пра лёсы дзекабрыстаў.

## 26 сакавіка ўстанаўліваецца новы парадак выезду непаўналетніх беларускіх грамадзян за мяжу

**26 сакавіка ўваходзіць у сілу новы закон аб парадку выезду з Беларусі і ўезду ў Беларусь грамадзян краіны.**

Як паведаміла на брыфінгу 16 лютага намеснік начальніка ўпраўлення па грамадзянстве і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкама Іна Студзянічнік, законам прадугледжана, што пры выездзе непаўналетняга за мяжу ў суправаджэнні аднаго з законных прадстаўнікоў згода другога не патрабуецца.

Зараз выезд непаўналетняга магчымы толькі са згоды абодвух законных прадстаўнікоў.

У сувязі з гэтым, міліцыя заклікае бацькоў урэгуляваць праз суд усе магчымыя спрэчныя пытанні, што ўзнікаюць у сувязі з выездам непаўналетніх дзяцей за мяжу. Суд можа ўстанавіць іншы парадак, чым прадугледжаны законам, напрыклад устанавіць, што выезд магчымы са згоды абодвух законных прадстаўнікоў. У іншым выпадку, суд можа забараніць выезд непаўналетняга за мяжу, уключыўшы яго ў базу звестак грамадзян, выезд якіх за мяжу часова абмежаваны.

Студзянічнік нагадала, што пры выездзе за мяжу непаўналетні ў любым узросце павінен мець пашпарт. Пры афармленні пашпарта дзіцяці да 16 гадоў дзяржпошліна не збіраецца.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*




## Владлена Валянцінавіча Палінка

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Игрушки, торт, конфет гора!
Все хлопают в ладоши!
Тебе 7 лет уже. Ура!
И день такой хороший!
Пусть живётся тебе без забот,
Будет счастье с тобою повсюду,
Пусть тебе непременно везёт,
Потому что ты – милое чудо!

***Тата, мама, бабулі, хросная, Вадзім***

## Наталлю Станіславаўну Шарабайка

**Сардэчна віншуем з юбілеем!**



Чтоб жизнь всегда была светла,
Желаем света и тепла,
Здоровья крепкого навек,
Всего, чем счастлив человек!
Желаем счастья и здоровья,
Улыбок, бодрости и сил,
Чтоб каждый день обычной жизни
Лишь только радость приносил!

***Сям'я Стоцік.***

## Паўла Міхайлавіча Кабака

**Віншуем з 50-годдзем!**



От чистого сердца, тепла не жалея,
Хотим пожелать тебе в день юбилея.
Улыбок побольше, поменьше ненастья,
Здоровья, успехов, огромного счастья.
И ещё мы тебе пожелаем:
Пусть не стареется сердце вовек
Ты для нас самый добрый на свете,
Самый милый, родной человек.

***Жонка Ірына, дачка Маргарыта, цешча Ванда***

# Тэлетыдзень "Вольнага Глыбокага"

1 – 7 сакавіка 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 сакавіка




**03.25** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Церемония закрытия. Прямая трансляция.
**05.30** В ожидании Мундиаля.
**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 00.15** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.25, 11.50** Деловая жизнь.
**08.30** В мире моторов.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ». Мужской сезон. Передача3-я.
**11.00** Комедийная мелодрама **«Не родись красивой»**
**12.10** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Дневник Олимпиады.
**12.35 «ЛОпуХИ»**
**14.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Я против раннего развития».
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Мелодрама **«Сестры по крови»**
**17.05 «Не родись красивой»**
**18.05** Видеофильм АТН «Кобякова Ольга» цикла «Легко сказать».
**18.25** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Дневник Олимпиады.
**18.50, 00.20** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** Специальный репортаж АТН «Сила притяжения».
**22.05** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Церемония закрытия.
**00.25** День спорта.




**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**10.45** «Великолепная пятерка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Великолепная пятерка».Продолжение.
**12.00** «Малахов+».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».** Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Монтекристо».** Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сергей Жигунов, Анастасия Заворотнюк в комедийном сериале **«Моя прекрасная няня».** Амедия (Россия) при участии Сони Пикчерс (США), 2004 год.
**19.00** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00** «Наши в Осло. Группа «3+2».
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** «Преступления века».
**23.55 «Женаты... с детьми».** Многос.фильм.
**00.40** Наши новости.
**00.55** Новости спорта






**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.40 «Пиковая дама»**
**12.15** «Пра мастацтва».
**12.40** Школа ремонта.
**13.40 Мультфильм.**
**13.50** Мультсериал **«Галактический футбол»** (Франция). 1-я серия.
**14.15** Внеклассный час.
**14.30** Бухта капитанов.
**15.10** Телебарометр.
**15.25** Детективный сериал **«Комиссар Мегрэ»**
**16.20** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения с Ю.Афанасьевым
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Конец операции «Резидент»** 1-я с.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Белорусское времечко.
**21.50** Футбол. Чемпионат Англии. Обзор тура.
**22.45 «Универ»** (Россия).
**23.15** Детективный сериал **«Комиссар Мегрэ»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя». Информационно-аналитическая программа.
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35 «Бывшая».** Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Ансамбль «Беседа» против Трио «AvГуст».
**15.00** «Большой город».
**15.30** «Горячий лед».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Я - путешественник».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Бывшая».** Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кинопонедельник»: **«А Я ЛЮБЛЮ ЖЕНАТОГО».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичные подробности».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Громкое дело».




**17:00** Аб'ектыў
**17:05** Еўропа сёння
**17:35 «Арол: крымінальная сага»**
**18:30** Госць «Белсату»
**18:50** Анатоль Міхайлаў – філосаф у выгнанні
**19:05** Прэс-экспрэс
**19:25** Англійская мова з Лілі і Мэсі
**19:30 «Аблавушак»,** мультсерыял
**19:40** Моўнік
**19:50** ПраСвет
**20:05** Невядомая Беларусь: «Першая катастрофа», дак. фільм
**20:35** Прыватная калекцыя
**21:00** Аб'ектыў
**21:25 «Рухомы замак Гаўла»**
**23:20** Аб'ектыў

